№ 80 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на $^{1}/_{2}$ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 80 (172). Год II. Вільня, 5 кастрычніка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# БАТАЛІЯ У ФЛЯНДРЫІ,

## 4 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Ворагі абстрэлівалі бэльгійскіе ваколіцы і мястэчкі у Фляндрыі далёка за нашым фронтам. У начы ад лесу Гутгольцт да Ліс вялізарная артылерыйская бітва трывала далей, не слабеючы. Сягоньня раніцай яна дайшла да барабаннаго агня. Сільнымі англіцкімі штурмамі ў заварoці Іпра пачалася новая баталія ў Фляндрыі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: У вечары пачаўся абстрэл вяршыны 344 на ўсходзі ад Самонье. Пасьля французы густымі масамі пачалі штурм проці адабраных намі ад іх пазыцій. Артылерыйскім агнём і штыкамі мы адбілі іх, учыніўшы ў іх вялікіе страты.

**Усходні тэатр:**

Ля Якобштадту, Дзьвінска і на Збручу, а такжэ ў заварoці Дунаю пад Галяцам — момэнтамі агонь.

---

БЭРН. Французскі пасол у Швэйцарыі, Бо, пакідае сваё мейсцо, якое займець б. міністэр фінансоў, Т'еры, с тытулам паўнамочнаго міністра. Гэтае назначэньне звязываюць з думкай французскаго ураду пацгатавацца да спадзеваных мірных перэгавoраў.

ЖЭНЕВА. У адказ на торговую умову між Голандзіей і Нямеччынай аб вывазе ў Нямеччыну тавароў Амэрыка пастанавіла задзержаць 85 голандзкіх параходаў, агульнай ёмкасьцю 300.000 тонн, якіе знаходзяцца ў амэрыканскіх портах.

ЦЮРЫХ. Дэмохратычная конфэрэнція ў Пецярбургі перэвагай 610 галасоў проці 585, значыць, толькі 25-цю галасамі адкінула рэзолюцію большэвікоў аб пачатку мірных перэгавораў той-час.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Дэмократычная конфэрэнція ўсемі галасамі пастанавіла не расхадзіцца, пакуль ня будзе утворэна ўрадовая ўласць, згодлівая з духам дэмократіі.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А ). Глаўны камітэт флоту падаў марскому міністру свае жаданьня, каторые маюць характэр ультіматума. Тады адмірал Вердерэвскій загадаў распусьціць гэты камітэт і выбраць новы. Аднак, сход дэпутатоў балтыцкаго флоту пастанавіў адмовіцца выбіраць і прэдлажыў міністру дайсьці угоды с камітэтам.

У звязі з бунтам Корнілова урад апавешчае аб адстаўцы або пераводзі 31 дывізіонных і палкавых начальнікоў.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.) Конфлікт між марскім міністэрствам і глаўным камітэтам балтыцкаго флоту уладжэн пецярбурскай радай раб. і салд.

ПЕЦЯРБУРГ. Пані Сухомлінова прасіла ўрад не высылаць у Сібір яе засуджэнаго мужа, а пакінуць яго ў Петрапаўлаўскай крэпасьці. Міністэр судоў, як кажуць, згодзіўся на гэта:

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т А.). С прычыны дамаганьнёў жалезнадарожнікоў урад назначыў камісію дзеля перэгляду пэнсій служачым. Разам с тым урад зрабіў рэвізію жалезнадарожных тарыфоў, каб с прычыны агульнай дарыжыні павялічыць пэнсіі служачым.

БЭРЛІН. 3.X. Учора ў вечары у імперскаго канцлера адбыўся палітычны вечар, на каторым былі члены Рэйхстагу і прускаго сэйму, усе міністры, статс-сэкрэтары і дырэктары дэпартамэнтоў. Палітычная гутарка трывала да палуначы.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у канале Ляманш і ў Паўночным моры: 4 параходы, 1 парусьнік і 1 рыбалоў.

БЭРН. Конгрэс саюза соцыялістоў Сэны ўсемі галасамі выключыў Гэрвэ ссоцыялістычнай партыі. Тома і Кошэн падалі голас за выключэньне.

ЛОНДОН. Новы англіцкі военны крэдыт даходзіць $12^{1}/_{2}$ мільярдоў марак.

ТОКІО (Рэўтэр). Тайфун зрабіў тут страшэннае знішчэньне. 100.000 людзей асталіся пад голым небам. Сотні ранены або пагіблі.

---

КОЎНА. На 30 верасьня г. г. „нямецкіх“ рублёў было у абароці на 118.679.232 р. проці 102.549.732 руб. на 31 жніўня.

# Граф Чэрнін аб сусьветным міры.

На банкеці, дадзеным у Будапэшці на чэсць аўстрыяцкаго міністра заграпічных спраў, гр. Чэрніна, апошні ў доўгай прамове, між іншым, сказаў:

„Мільёны людзей, каторые б'юцца у акопах, хочуць ведаць, за што яны б'юцца... Эуропа пасьля гэтай вайны павінна аперціся на новых інтэрнацыональных праўных асновах. Трэба дайсьці заверэньня, што ня будзе больш войн дзеля рэванжу. Трэба выключыць вайну з ужытку палітыкі. На інтэрнацыональных асновах і пад агульным кантролем павінно быць праведзено агульнае, роўнамернае і пасьледавацельнае раззброеньне ўсіх дзержаў сьвету, а военные сілы павінны быць даведзены да найменшаго чысла, вымаганаго праўдзівай патрэбай. Вялікая абмылка думаць, бытцым мір пасьля вайны будзе прадаўжаць дзело там, дзе яно затрымалося ў пачатку вайны. Найвялікшым нешчасьцем пасьля гэтай сусьветнай катастрофы было-бы тое, калі-б пасьля міра дзержавы далей зброіліся бы так, як раней. Вялізарные флоты ня будуць мець надалей ніякай мэты, калі ўсе дзержавы сьвету забаспечаць свабоду на марах. Сухапутные войскі павінны быць агранічэны акурат на гэтулькі, каб маглі падтрымліваць унутрэны лад. Трэба думаць, што цяперашняе пакаленьне не дажыве да канца гэтай вялікай мірнай перамены. Але наша павіннасць — ускорыць яе і устанавіць яе асновы.

„Калі агульнае раззброеньне абернецца ў факт, дык мы можэм адмовіцца ад пашырэньня граніц нашай дзержавы, — само сабой, калі ворагі зусім ачысьцяць нашу зямлю. Далей, пры замірэньні мы павінны мець пэўнасць, што нашы ворагі пасьля міра пакінуць думку аб экономічнай вайне з намі.

„Гэткіе нашы старые варункі, ды яны не змяніліся і цяпер. Але гэта праграма ня можэ абязываць у кожным часі. Калі нашы ворагі прымусяць нас прадоўжыць вайну, дык нам прыдзецца перэглядзець яе і дабівацца заплаты. Я ў гэты момэнт заяўляю, што на гэткай аснове можна дайсьці міра. Калі-ж вайна будзе трываць далей, мы пакідаем сабе вольную волю. Я цьвёрда пераконан, што цераз год мы будзем у ешчэ лепшых варунках, чым цяпер... Я ня лішне оптымістычна думаю аб ахвоці саюзьнікоў мірыцца на гэткай аснове. Перэважываючая большасць чэлавечэства жадае гэткаго міра, ды гэтаму працівіцца жменя людзей“.

---

Нямецкі офіцыоз „Nordd. Allg. Ztg.“ пішэ:

„Агульнае сусьветнае раззброеньне, прымусовы угодлівы суд, адмова ад тэрыторыальных здабычаў, безварунковая экономічная свабода — вось прынцыпы, каторые маглі-бы усьцерагчы сьвет ад паўтарэньня перэжыванай намі катастрофы... Але аўстрыяцкі гасударственны муж, гр. Чэрнін, не пакідае сумлеваньня: калі ворагі хочуць ваеваць далей, дык і мы вольны і не звязаны з апавешчэнай праграмай“.

---

*Вільня, 5 кастрычніка.*

Чым бліжэй той час, калі беларускі народ, разарваны военным фронтам на дзьве часьці, будзе прызван цьвёрда і ёмка сказаць сваё важкае слово, як ён хочэ ўладзіць сваё будучае жыцьцё, — тым цясьней павінны мы гуртавацъ, цясьней злучаць рады чынных работнікоў на роднай ніве. Работы перад намі — бяз конца многа: мы падыходзім да рэалізаціі таго, што ешчэ два-тры гады таму назад выдавалося нам далёкім, недасьцігльым ідэалам...

Рознымі дарогамі йдуць беларусы розных кірункоў, розных палітычных партый да аднэй мэты. І крайніе соцыялісты, і ўмяркаваные элемэнты, і работнікі, і буржуазія—ўсе па-свойму старающца дайсьці волі для Беларускаго Народу. А яркі прыклад зразуменьня патрэбы еднасьці ўсіх беларусоў пры будаваньні асноў будучыны даюць нам нашы браты с таго боку фронту, дзе Беларускі Нацыональны Камітэт, Беларуская Цэнтральная Рада здалелі сабраць усіх нашых дзеячоў, здалелі запрэгчы да супольнай працы прэдстаўнікоў усіх кругоў беларускаго грамадзянства, збудзіўшы нацыональную сьвядомасць у тых сыноў нашаго народу, каторые ў часі ганебнаго уціску беларусоў пад панаваньнем расейскаго царызму спалі крэпкім сном. Да нас даходзяць весткі, што доўгі рад

ваных агентамі паліцэйскаго пункту ў Шырвінтах расейскіх ваенных, напала на агентоў, абстраляла іх і аднаго небаспечна раніла, — 1.500 м.

4) на грамаду Каролішкі, ўладыславоўскаго пав., за тое, што ў начы на 18.IV.17 у Каролішках адна кабета (расейская немка) была забіта аружнай бандай уцёкшых расейскіх ваенна-палонных, ды гэтая банда ў тую ноч і раней начэвала ў Каролішках, аб чым жыхары не паведамілі нямецкай уласьці —2.000 м.

5) на грамаду Якубайцы Новые, рос'енскаго пав., за тое, што члены грамады 7.V сустрэцілі залпам са стрэльб пры ўходзі ў адзін селянскі двор нямецкаго салдата, каторы хацеў зрабіць сьледзтво аб быўшай у гэты самы дзень у Якубайцах Новых напасьці нейкаго ліхадзея на нямецкаго унтэр-афіцэра, — 1.000 м.

6) на грамаду Лазаўнікішкі, ўладыславоўскаго пав., за тое, што грамада, ведаючы аб укрываньні членамі яе ўцёкшых расейскіх ваенных, не данесла аб гэтым тойчас, — 192 м.

Е. Н. О. 6 верасьня 1917.

Der Etapen-Inspekteur
z. m.
**Heer,**
General-major.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). **Дэмократычная конфэрэнцiя.** Маршалак Чхэідзэ паставіў на галасаваньне, за ці проціў заюзаў: 1) саюз с партыей кадэтоў; 2) саюз с кіраўнікамі кадэцкай партыі. 760 галасоў пададзены за саюз, 688—проці. Але с прычыны немагчымасьці дайсьці угоды аб способі супольнай працы с кадэтамі гэтае пытаньне паставілі на галасаваньне другі раз, ды яно было адкінуто 813 галасамі проці 180.

На вячорным заседаньні большая часць прамоўцаў выступала проці супольнай работы з буржуазнымі элемэнтамі. У часі заседаньня ў салю хацелі ўварвацца 200 работнікоў і работніц, кажучы, што яны—прэдстаўнікі 1½ мільёна работнікоў, жадаючых міра той-час. Пасьля доўгіх перэгавораў былі дапушчэны на заседаньне 6 дэлегатоў, каб высказаць жаданьня работнікоў.

ЛЮГАНО. «Corr. d. Sera» даносіць с Пецярбурга, што першае галасаваньне на дэмократычнай конфэрэнціі выказало у большэвікоў 485 галасоў спаміж 1200.

ПЕЦЯРБУРГ. У сваей апошняй прамові на дэмократычнай конфэрэнціі Керэнскій сказаў:

«Урад толькі што атрымаў тэлеграму з Гэльсінгфорса, што армія і флот адмовіліся памагчы нам недапусьціць заседаньня фінляндзкаго сэйму».

Большэвікі на гэта закрычалі; «Яны зрабілі правільна!»

АМСТЭРДАМ. Амэрыканскі ўрад заявіў расейскаму, што Амэрыка толькі тады акажэ паддзержку Расеі, калі тая будзе далей ваеваць з немцамі.

ШТОКГОЛЬМ. «День» друкуе пагляды расейскіх дыплёматоў і робіць з іх вывад, што расейскае міністэрство угледаецца цяпер на справу міра інакш, чым раней. Офіцыяльные кругі ня лічаць больш немагчымым пачатак перэгавораў. Пасылка б. члена Думы, Ефремова, за пасла ў Бэрн тлумачыцца жаданьнем зрабіць магчымым пачатак мірных перэгавораў у кожын момэнт, бо Бэрн, як здаецца, будзе іграць выдатную роль у будучых мірных перэгаворах.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). С Ташкенту даносяць, што група агітатароў аб'явіла сябе за рэволюцыйны ўрад у горадзі, захапіла ўсю ўласць у свае рукі, перэцягнула на свой бок два палкі і апавесьціла, што не прызнае тумчасоваго ўраду. Мусульманскае насяленьне і вучні ваеннай школы, заняўшые крэпасць Ташкент, стаяць за тымчасовы ўрад. Ждуць крывавых разрухоў. Бунтаўшчыкі не прынялі ультіматума тымчасоваго ураду.

Генэрал Коровнічэнко назначэн за глаўнаго камісара ў Туркестане, каб сілай затушыць разрухі.

ШТОКГОЛЬМ. Народны сход у Ялце аб'явіў усе быўшые царскіе землі за нацыональнае меньне. Селяне знішчылі на Каўказі палац в. кн. Александра Міхайлавіча. У Магілёўшчыне селяне заўладалі ўсемі дворнымі землямі.

ЖЭНЕВА. 8 кастрычніка ў Томску адкрываецца конгрэсс сібірскіх аўтономістоў, каторы павінен выпрацаваць праект аўтономіі Сібіру.

ЦЮРЫХ. Расейскі ўрад прэдлажыў б. міністру Хвостову, генералу Гурко і вял. кн. Міхаілу, брату цара, пакінуць Расею і перэбрацца ў саюзьніцкіе староны.

# З усяго сьвету.

ЛЮГАНО. Італьянскі урад загадаў 56 бургомістрам у паўночнай Італіі пададцца ў адставку, вінавацючы іх у прыхільнасьці да апошніх рэволюцыйных выступленьнёў.

ЦЮРЫХ. У Нэаполі і ва ўсей Кампаніі аб'яўлено ваеннае палажэньне.

ЦЮРЫХ. Адзін італьянскі публіцыст пішэ:

«Прыклад Пецярбурга адбіваецца на Італіі. Італьянскіе соцыялісты ўсемі сіламі стараюцца насьледаваць Леніна і абярнуць Італію ў другую Расею. Пры спадзеваным адкрыцьці італьянскай камэры соцыялісты маняцца устроіць вялізарную обструкцію».

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**2. X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На фронці Фляндрыі — сільная артылерыйская бітва, даходзіўшая між Лянгмарк і Голебэк да барабаннаго агня. На поўначы ад дарогі Мэнін-Іпр, ля лесу Полігон, нашы дружыны адабралі у англічан абшар да 500 мэтроў і удзержалі ў сваіх руках здабычу проці сільных контратак.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На паўночным усходзі ад Суассон крапчэла артылерыйская бітва. Пад Вэрдэнам ажыўленая артылерыйская бітва. Пры Бэзонво нашы дружыны ўварваліся ў варожые акопы і вярнуліся вядучы больш за 100 палонных.

**Усходні тэатр:**

Без перамен.

**3. X. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Над морэм і між Лянгмарк і Сандвордэ артылерыйская бітва дайшла вялікай сілы. Раніцай ворагі зусім дарэмна стараліся адваеваць назад абшар на поўначы ад дарогі Мэнін-Іпр.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Наабапол Ляон-Суассон сільная баевая чыннасць. На Эн, пад Рэймсам і ў Шампані ўзяты палонные і дабыча. На ўсходнім беразі Маасу, на паўночным склоне вяршыны 344, мы здабылі францускіе акопы на шырыні 1200 мэтроў. Адбіты 8 контратак. Узяты больш за 150 палонных. Крывавые страты ворагоў надта вялікіе.

---

У начы с 1 на 2 кастрычніка нашы лятуны скінулі бомбы на Лондон, Маргет, Шырнэс і Дувр.

**Усходні тэатр:**

Без вялікшых бітв.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА, 3.X. **Італьянскі тэатр:** На адрэзку С. Габріэле узняліся новые пешые бітвы. Вялікіе сілы ворагоў штурмавалі нашы пазыціі і здабылі вузкі адрэзак іх на заходнім склоне гары.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. У начы з 28 на 29 верасьня нашы бомбы, скінутые лятунамі, вызвалі ў Дюнкірхэне вялікіе пажары, каторые абнялі ўвесь Дюнкірхэн. **Гэтак глаўны цэнтр складоў англіцкай арміі зніштожэн.**

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы марскіе самалёты с фляндрскаго узбярэжжа знішчылі ў усьці Тэмзы вялікую англіцкую лятучую лодку.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак навакол Англіі: 21.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). На паўночным ваенным тэатры ізноў затоплено 18.000 тонн.


# АБВЕСТКІ.

**Марыя Можэйко,** вучыцелька урадовай жаноцкай гімназіі, шукае якой-колечы работы. Маёвая 24.

**Падайце шчасьцю руку!**

**Вялікая Гамбурская Дзержаўная Лётэрыя.**

Вялізарные шансы выгрыша дае Гамбурская Дзержаўная Лётэрыя, розыгрыш каторэй скора адбудзецца.

**Адзін мільён марак**

— найвялікшы магчымы выгрыш, або такжэ адзін с чародных:

**900.000; 890.000; 880.000; 870.000; 860.000; 850.000**

і т. д. Спэцыальна

**500.000, 300.000, 200.000, 100.000, 90.000, 80.000, 70.000**

і т. д.

Усяго ж разыгрываецца

**13 мільёнаў 731 тысяча м.**

Лётэрыя складаецца с 7 кляс. Лёсы I клясы высылаю па офіцыяльнай цэне:

**2.50 м.** — чверць лёсу,
**5.00 м.** — палова лёсу,
**10.00 м.** — цэлы лёс.

Спіс выгрышоў і грошы — **ўраз-жэ** пасьля кожнаго розыгрыша. Офіцыальные пляны — **дарма.** Радзіцца купляць па некольки лёсаў, бо тады шансы выіграць— шмат вялікшые. Маім кліэнтам я ўжо сем разоў выплаціў вялікіе прэміі — апошні раз двойчы ў год 305.000 м і 303 000 м. С прычыны таго, што заказы заўсёды—вельмі чысьленые і запас лёсаў шыбка расходзіцца, дык раджу даваць заказы чым хутчэй, найпазьней да 25 кастрычніка 1917 г.

**Jos Dammann, Hamburg.**
Königstr. 50.

Фірма аснована ў 1851 гаду. Найстарэйшы і найбольш вядомы глаўны коллектор. Дробные коллекторы, каторые хочуць прыняць лёсы за працэнты на выгодных варунках, могуць зараз-жэ заяўляцца.




**В. Ластоўскі, Завальная 7.**

Новае выданьне **„Смык Беларускі"** Ф. Богушэвіча.

**Цэна 20 кап.**



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.